сталася арэнай немаскаванага эгоізму маючых клясаў, а збоку палітычнага—перамога партыйнай мысьлі над дзяржаўнаю. Шырокім масам дэмакратыі пагражае голад. За часоў урадаваньня сучаснага ўраду зьменшыліся беспасрэдныя падаткі і павялічыліся пасрэдныя. Работніцкія заработкі зьмяншаюцца, а даходы капіталістаў нязьмерна павялічваюцца. Зьбліжаецца пагроза новых забастовак. Па віне сучаснага ўраду істнуюць падпольныя цячэньні. Але ўрад Вітаса шукае вінаватых у іншым месцы і затыкае рот апазіцыйнай прэсе, нявінных людзей садзяць у вастрог, некаторыя акты ўраду выклікаюць пытаньне: бязглуздасьць ці правакацыя? Яшчэ не закончана сьледства ў справе сумнага выпадку ўзрыву ў цытадэлі, а ўрад ужо выдае адозву што выпадак выклікала праступная рука; гэта прыпамінае мэтады праклятай памяці царскі ўрад.

Адзначыўшы далей няўдачы ўраду ўва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця прамоўца заяўляе, што яго партыя будзе бараніць правоў народу проціў ураду пана Вітаса.

П. **Дэмбскі** (Пяст) зазначыўшы, што выпадкі ў Нямеччыне, якія з зацікаўленьнем сьледзіць Саюз Радавых Рэспублік, пагражаюць вайной, дзеля гэтага трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на заграніччную палітыку. Толькі моцны ўрад можа выпаўніць гэтыя заданьні, дзеля чаго пястоўцы будуць падтрымліваць сучасны ўрад.

Паслы **Пехоцкі** (хадэк) і **Дубановіч** (хр.-нар.) бароняць урадовую палітыку і выказваюцца за падтрыманьне ўраду.

П. **Рэйх** (жыд. клюб) крытыкуе агульную палітыку ўраду і асабліва адносіны да жыдоў. Калі сучасны ўрад упадзе, ніхто над яго магілай не заплача.

П. **Хондзыньскі** (N. P. R.) заняў выразна апазіцыйнае становішча адносна да ўраду Вітаса-Гломбінскага з прычыны атсутнасьці яснай і конкрэтнай гаспадарчай праграмы.

П. **Утта** (немец) рабіў закіды, што ўрад паўстаў, каб змагацца з нацыянальнымі меншасьцямі. Бароніць правы нямецкай людносьці ў справе абароны перад Лігай Нацыяў. Скардзіцца на прасьледаваньні, а асабліва на нішчэньне нямецкіх школаў.

Пасол **Васыньчук** (украінец), зрабіўшы закіды ў захланнасьці польскай лявіцы, ў вялікай прамове моцна заатакаваў сучасную большасьць і ўрад, якія давялі крэсы да сумнага становішча; урад у сваей праграме мае прасьледаваньне меншасьцяў, не пазваляе адчыняць школаў. Асабліва востра выступіў прамоўца проціў Глонбіньскага. Прыведзеныя факты проста скандалічны. Правыя ўвесь час перарывалі яго прамову: П. Васыньчук так закончыў прамову, зварочваючыся да ўраду: „Заяўляю, што калі, панове, абвяшчаеце нам барацьбу, мы пад гэтым цяжарам не сагнёмся і вызаў прымаем!“

П. **Донбскі** (Jedność Ludowa) у доўгай прамове паддаў рэзкай крытыцэ ўсю ўрадовую палітыку, зазначыў патрэбу утварэньня ўраду, які-б апіраўся на працоўную людносьць, а сучасны ўрад павінен падацца ў адстаўку.

Урэшце сказаў яшчэ прамову старшыня міністраў п. Вітас, у якой стараўся апраўдацца ад робленых яму апазыціяй закідаў.

У іменным галасаваньні прынята прапазыцыя аб даверыі ўраду большасьцю 208 галасоў правіцы проціў 191 лявіцы і нацыянальных меншасьцяў.

Пасол **Прагер** (P. P. S.) матывуючы сьпешнасьць прапазыцыі аб нарушэньні Канстытуцыі кажа, што ўрад хоча неафіцыяльна ўвесьці выняткавае палажэньне. У памешканьні пасла Тарашкевіча два разы рабілі вобыск, а на пытаньне чаго шукае, паліцыя цынічна адказала, што шукае Чычэрына. Адбываюцца масавыя вобыскі і арышты і паліцыя, як за царскіх часоў не прад'яўляе ордэраў. У Варшаве арыштавана 150 асоб, якія за атсутнасьцю довадаў звольнены, але 48 чалавек самавольна затрыманы да дыспазыцыі агентаў Керніка. Паліцыя зачыніла сем праф. саюзаў. Прэса прасьледуецца. Ідзе прапаганда фашызму. Адначасна жадаюць увесьці вынятковае палажэньне. Але мы будзем бараніць дзяржаву.

Сьпешнасьць прапазыцыі адкінута большасьцю 177 г. проціў 164.

Прынята сьпешнасьць прапазыцыяў у справе абароны ўсходняй граніцы, аб забясьпячэньні на ўнутраных рынках прадметаў штодзеннага ўжытку і ў справе голаду ў Донброўскім басэйне.

Таксама аднагалосна прынята сьпешнасьць прапазыцыі ў справе адозвы ўраду з прычыны ўзрыву ў цытадэлі.

# З газэт.

### Прамовы пана Прэзыдэнта.

Аб'яжджаючы „Усходнія Крэсы“, п. Прэзыдэнт Рэспублікі, Войцехоўскі, сказаў цэлы рад прамоваў. *Зварочаючыся выключна да польскага грамадзянства*, п. Прэзыдэнт гаварыў, што мэты Польшчы і яе палітыкі на „Крэсах“—гэта „разьвіваць тут у-ва ўсей паўнаце польскую культуру“. Паміж іншым, прамаўляючы ў Горадні, п. Прэзыдэнт сказаў:

„Ніхто ня робіць Польшчы вялікшае шкоды, як той, хто на „Крэсах“ насьлядуе якім-колечы способам мэтады паступаньня захватчыкаў“.

Хто насьлядуе гэтыя мэтады, хто ня ўмее выкараніць з сваей душы сьлядоў упадку і няволі, той ганьбіць Польшчу. *Я гэтага не пацярплю*, не пацерпіць і Польшча, і ён будзе прымушаны пакінуць свой урад, адыйсьці ад грамадскага жыцьця, зыйсьці з памяці польскіх грамадзян. Такіх людзей трэба зьніштажаць ня толькі затым, што зьяўляюцца плямай на штандары польскае культуры, але і крыўдзяць тых, што палеглі ў імя найшляхотнейшых лёзунгаў Польшчы.

Калі-б запаведзь п. Прэзыдэнта зьдзейсьнілася, дык вялікіх перамен трэба-б было ждаць у нашай адміністрацыі.... Але „Gazeta Warszawska“ „супакоівае“, што нічога падобнага ня здарыцца, і называе „бязстыдствам“ („bezczelność“) заяву польскае газэты „Kurjer Poranny“, якая з прычыны прамовы п. Прэзыдэнта ў Горадні пісала:

Павінны былі істнаваць важкія прычыны, дзеля якіх найвышэйшы начальнік рэспубліканскае экзэкутывы лічыў сябе прымушаным ажно да гэткага становучага выступленьня. Яно прадстаўляе вельмі выразны наказ для падлягаючай п. Прэзыдэнту выканаўчае ўлады, як яна павінна паступаць.

„Gazeta Warszawska“, як лейб-орган соймавае большасьці і заступнік сучаснага ўраду, пэўне-ж, лепш за другіх ведае, што ад заявы п. Прэзыдэнта палітыка на „Крэсах“ ані-ні ня зьменіцца....

І мы думаем тое самае.

### Прэса аб выбуху ў цытадэлі.

З прычыны адозвы ўраду аб выбуху ў варшаўскай цытадэлі, прызнаным Радай Міністраў за „злачынства праступнае рукі“, сярод польскіх газэт узьнялася вострая спрэчка.

Нацыяналістычныя часопісі, а перад усім „Gazeta Warszawska“, горача падтрымліваюць тлумачэньне прычыны выбуху, дадзенае ўрадам і заклікаюць польскае грамадзянства да барацьбы з „ворагамі Польшчы“. „Gazeta Poranna“ піша:

Урад кажа: гэта быў замах праступнай рукі—і, ясна, кажа гэта на аснове дабытых даных.

Але „Robotnik“, „Kurjer Polski“, „Kurjer Poranny“, „Przegląd Wieczorny“, абедзьве „Czerwone“ газэты, дый і „Polska Zbrojna“ згодным хорам паўтараюць: „Няпраўда, гэта быў толькі нешчасьлівы прыпадак!“

Што-ж піша „лявіца“ ў гэтай справе?

У вельмі ўмяркаванай газэце „Kurjer Polski“ чытаем:

Ніхто ня зьбіраецца даказываць, што зусім выключана дапушчэньне аб узарваньні цытадэлі камуністамі... Але нельга дапускаць, каб разьвязка справы была дадзена наперад, як гэта ўчыніў урад у абвестцы, выпушчанай цераз тры гадзіны пасьля прыпадку, калі сьледзтва не магло яшчэ распачацца.

Сацыялістычны „Robotnik“ выступае вельмі рэзка:

Перасьцерагаем урад, каб не перацягаў струны. Вялізарная большасьць народу мае ўжо годзе ўрадаваньня „Хіены“ і „Пяста“. Урад можа некалькімі галасамі большасьці ў Сойме ўзяць сабе асаблівыя паўнамоцтвы, якіх дамагаецца хіенская прэса, але шырокія народныя масы сваіх паўнамоцтваў не дадуць яму ніколі!

Няхай урад не ўдае сілы, якое ня мае і ў якую сам ня верыць.

Няхай урад усьцішыць свае ня ў час імкненьні да дыктатуры, памятаючы, што сядзіць на бочцы пораху.

„Robotnik“ піша, што паслы-сацыялісты паднімуць справу ўрадовае адозвы ў Сойме. Такім чынам можна спадзявацца вялікае соймавае буры.

# ХРОНІКА.

— „Цантральная Беларуская Школьная Рада гэтым абвяшчае сяброу Таварыства Беларускае Школы, што ёю склікаецца агульны сход сяброу Т-ва на 1-е лістапада (чацьвер) 1923 г. у г. Вільні, у памешканьні Школьнай Рады (Віленская № 12), а 11 гадзіне дня.

Калі на азначаную гадзіну не зьбярэцца установлены лік сяброу, сход адкрыецца на 1 гадзіну пазьней і будзе лічыцца правамоцным бяз увагі на лік прыбыушых на гэтую гадзіну сяброу (§ 34 статуту Т-ва)“.

Віцэ-Старшыня **Антон Луцкевіч**.

За Сэкрэтара **А. Грыневіч**.

**„Вольны Сьцяг“ зачынены.** Выдаваная ў Вільні беларуская часопісь „Вольны Сьцяг“, згодна з пастановай Акружнага Суду, ў Вільні зачынена. „Вольнага Сьцягу“ вышла 20 нумароў, з якіх 4 было сканфіскавана па загаду Камісара Ураду г. Вільні. Рэдактар Я. Лагіновіч, цягнецца пад суд па 129 і 263 арт. К. К.

**Аднаднёўка „Сьцяг Волі“.** 17-га кастрычніка ў Вільні выдадзена была аднаднёўка „Сьцяг Волі“, якая па загаду Камісара Ураду сканфіскавана за артыкул: „Сялянская і работніцкая кляса ў бліжэйшы гістарычны пэрыяд“.

**Новыя кнігі.** Вышла з друку і прадаецца ў Беларускай кнігарні новая кніжка „Пабрацімцы і Вялікая Шышка“—ч. I повесьці Я. Нарцызава „Вар'ят без вар'яцтва“, выданьне „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна.

22 кастрычніка ў Віленскім Акружным Судзе будзе разглядацца справа Старшыні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня гр. С. Валэйшы і Сэкрэтара гр. Біндзюка па абвінавачаньні іх па арт. 154 Код. Кар. Абаронцамі будуць віленскія і прыежджыя адвакаты, шмат сьведкаў, у ліку апошніх—трое паслоў Сойму.

# Весткі з вёскі.

### Арышты ў Вялейскім павеце.

Тыдні два назад заарыштаваны Янка Семашкевіч, 18-ці гадовы хлапец з-пад Лебедзева, Вялейскага павету, былы вучань Беларускай гімназіі ў Вільні, а летась—вучань гімназіі расейскай у Вялейцы-павятовай. Заарыштаваны ў вагоне па дарозе з Маладэчна ў Вялейку, куды ехаў ён, каб трымаць экзамен ў наступную клясу Вялейскай гімназіі. За што заарыштаваны гэты вучань-хлапец — невядома. Ня маючы прад'яўленага яму ніякага абвінавачаньня, ня ведаючы, як даць знаць бацьком сваім аб сваім арышце і ня ведаючы колькі часу будуць яго трымаць, Семашкевіч на пытаньні дапрошчыкаў знарок абгаварыў сябе, што мае рэвольвер. На такую хітрыку пусьціўся хлопец дзеля таго, каб як-небудзь пабачыцца з бацькамі, каб тыя ведалі аб яго лёсе і пачалі захады аб яго звальненьні. Пасьля таго прызнаньня і ўказаньня, што знайсьці закапаны рэвольвер ён можа толькі асабіста і будучы дома,— Семашкевіч быў пад канвоем адвезены ў родную вёску. Расказаўшы коратка бацьком, што за прыгода неспадзяваная сталася з ім па дарозе з дому ў Вялейку, ён прызнаўся канвойным, што ашукаў іх і што ніякага рэвольвера ў яго ня было і няма цяпер, і прызнаўся ў прычынах, прымусіўшых яго салгаць на дапросе. Паліцэйскія-канвойныя надта раззлаваліся за гэта на Семашкевіча і... адвязьлі яго назад ў Вялейку, дзе ён упакаваны быў у турму і дзе сядзіць да сяньняшняга дня. Бацька арыштаванага, дбаючы аб звальненьні сына, паехаў ў Вялейку, каб пад залог сваёй зямлі ў 45 мільёнаў узяць сына на парукі. Але старому не ўдалося: сына ня выпусьцілі такі.

З Вялейскага-ж павету паведамляюць нас, што там адбыліся арышты некалькіх дзесяткаў людзей, і што частка іх пасаджана ў Вялейскую турму, а другую частку іх упакавалі ужо ў Віленскую турму—на Лукішках.

**Дапішчык.**

### Ахвяры на прэсовы фонд.

1. Ад грамадзян N-скае гміны 3.780.500 м. п.
2. Ад гр. Рагазы . . . . . . 400.000 „ „
3. Ад гр. Невельскага з Беластоку . . . . . . . . . 300.000 „ „
4. Ад гр. Станьчыка . . . . 500.000 „ „
5. Ад вёскі N гміны Смаргоньскай . . . . . . . . . . 1.375.000 „ „
6. Ад гр. Ключніка з Амэрыкі . 10 ам. дал.

Усім ахвярадаўцам адміністрацыя газэты складае шчырую падзяку.

Рэдактар-Выдавец **У. Знамяроўскі**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.